ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

№45 (1858)

Субота, 13 сакавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -2...0, сонечна, уначы — -8...-6, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — -1...+1, сонечна, уначы — -1...+1, без ападкаў; у Гродне ўдзень — -1...+1, сонечна, уначы — -2...0, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -1...+1, сонечна, уначы — -2...0, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Мадрыд: загінуўшых усё больш



На ўчарашні дзень загінуўшых было 198 чалавек. Раненні атрымалі яшчэ 1463 чалавекі. На 12 сакавіка ў бальніцах знаходзілася 377 чалавек. Стан 45 гаспіталізаваных ацэньваецца як крытычны, а 15 — як вельмі крытычны.

Медыцынскім экспертам удалося ўстанавіць асобы 177 загінуўшых, 75 з якіх ужо адпраўлены сваякам. Для апазнання яшчэ прыблізна 30 целаў патрабуецца правесці аналіз ДНК. Не апазнанымі застаюцца больш за 40 чалавек.

Нагадаем, 10 выбухаў у прыгарадных цягніках Мадрыда адбыліся пазаўчора з інтэрвалам усяго ў 5 хвілін.

Адказнасць за тэракты ўзяла на сябе арганізацыя "Брыгады Абу Хафс аль-Масры", якая з'яўляецца падраздзяленнем аль-Каеды.

**Ул.інф.**

## У Анатоля Тозіка дзве пяцёркі



Сёння яму спаўняецца 55!

Як запэўніла сакратар старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю, "у суботу ён заўсёды прыходзіць на работу".

Відаць, свае "дзве пяцёркі" Анатоль Апанасавіч адзначыць вечарам у сямейна-сяброўскім коле.

Дарэчы, у прэм'ера С.Сідорскага сёння юбілей — 50!

**Алеся КОВАЧ.**

## Намеснік генеральнага дырэктара МАГАТЭ наведае Беларусь

Перспектывы пашырэння тэхнічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і МАГАТЭ былі абмеркаваны падчас сустрэчы намесніка міністра замежных спраў Беларусі Аляксандра Сычова з намеснікам генеральнага дырэктара МАГАТЭ, дырэктарам дэпартамента тэхнічнага супрацоўніцтва Ганнай Марыяй Чэтта. Сустрэча адбылася ў штаб-кватэры Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) у Вене.

А.М.Чэтта з падзякай прыняла запрашэнне наведаць Беларусь для азнаямлення з сітуацыяй на месцы.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Эвакуіравалі каля 40 чалавек...

Вечарам 11 сакавіка 37 чалавек былі эвакуіраваны з будынка інтэрната № 10 Беларускага дзяржаўнага універсітэта, размешчанага на вуліцы Курчатава ў Мінску, з-за задымлення, што ўзнікла ў падвале.

Як паведамляе прэс-служба МНС, загаранне ў падвальным памяшканні 14-павярховага будынка было выяўлена каля 10 гадзін вечара. Пажар пачаўся ў памяшканні электрашчытавой. На месца пажару былі накіраваны падраздзяленні МНС, а з будынка праведзена эвакуацыя людзей.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Шукаюць забойцу нованароджанай дзяўчынкі

11 сакавіка паблізу ад пасёлка Андрыянаўскі Гомельскага раёна на звалцы з вяроўкай на шыі быў знойдзены труп нованароджанай.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, судова-медыцынскай экспертызай папярэдне ўстаноўлена, што смерць немаўляці наступіла ад механічнай асфіксіі (удушэнне).

Узбуджана крымінальная справа. Вядзецца пошук забойцы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**ЦИТАТА ДНЯ**

*Светлана АЛЕКСИЕВИЧ:*

# «Мы не должны молчать...»



*"Мы позволили власти так обращаться с собой. Мы выбрали, мы молчим, мы переносим все это — кто из-за страха, кто из-за денег, кто из-за генетической памяти. У нас был шанс начать новую жизнь, избрать к власти других людей, войти в европейское сообщество, чего мы не сделали. Наоборот, мы закрываемся от мира"*, — заявила известная белорусская писательница **Светлана АЛЕКСИЕВИЧ** во время "прямой линии" с читателями "Комсомольской правды в Беларуси".

Как считает писательница, *"если общество будет молчать, с ним будут делать все, что угодно". "Делайте что-нибудь, наконец! Иначе вы обрекаете не только себя, но и детей и внуков"*, — обратилась Светлана Алексиевич к своим соотечественникам.

Книги Светланы Алексиевич изданы в 19 странах мира, она автор 21 документального фильма и 3 театральных пьес. Несколько лет назад Алексиевич вынуждена была уехать работать в Италию. Потом ее пригласили во Францию. Когда писательница бывает на родине, график ее встреч переполнен.

**www.charter 97.org**

**ЗАКУЛІССЕ**

# Навошта прыязджаў у Мінск патрыярх расійскай палітыкі?

*Зразумела, што найбольш поўны і дакладны адказ на гэта пытанне даў бы сам Яўген Прымакоў. Але пагутарыць з ім не давялося не тое што журналістам недзяржаўных выданняў, а нават і "прыдворнай" прэсы. Як сказалі мне калегі, выхаду да прэсы ў Яўгена Прымакова падчас яго аднадзённага наведвання Мінска не было.*

А таму застаецца магчымасць толькі паразважаць над нечаканасцю і хуткацечнасцю візіту ў Мінск патрыярха расійскай палітыкі. З аднаго боку, быццам няма падстаў не верыць прэс-службе кіраўніка Беларусі, якая сцвярджае, што падчас сустрэчы Яўгена Прымакова і Аляксандра Лукашэнкі пільная ўвага была аддадзена эканамічнаму блоку пытанняў. Сама цяперашняя пасада Яўгена Прымакова — а ён, нагадаю, з'яўляецца прэзідэнтам Гандлёва-прамысловай палаты Расійскай Федэрацыі — звязана, перадусім, з эканомікай. З другога боку, ведаючы кар'еру Яўгена Прымакова, якога менавіта Аляксандр Лукашэнка назваў "патрыярхам расійскай палітыкі", цяжка паверыць у тое, што маскоўскі госць абмежаваўся выключна эканомікай.

Справа ў тым, што яшчэ летам мінулага года ў прэсе з'явілася інфармацыя пра тое, што па просьбе Уладзіміра Пуціна Яўген Прымакоў быў падключаны к беларускай тэматыцы. Больш таго, сцвярджалася, што раз у два месяцы расійскі прэзідэнт сустракаецца з вядомым ветэранам палітыкі і яны па некалькі гадзін абмяркоўваюць розныя пытанні, уключаючы беларускае. У гэта можна верыць, тым больш што ў свой час менавіта Яўгену Прымакову, калі ён быў міністрам замежных спраў Расіі, а потым прэм'ер-міністрам, даверылі справу абучэння Аляксандра Лукашэнкі азам вялікай палітыкі. Мабыць, тыя ўрокі добра запомніліся кіраўніку беларускай дзяржавы, які публічна назваў маскоўскага ветэрана не толькі патрыярхам расійскай палітыкі, але і сваім настаўнікам.

Праўда, у апошні час адносіны паміж імі, падобна, пагоршыліся. Калі ў сваёй апошняй кніжцы, якая выйшла ў 2001 годзе, Яўген Прымакоў вельмі цёпла адклікаецца аб "маладым і здольным прэзідэнце Беларусі", то пазней Прымакоў публічна выказаў папрокі на яго адрас: маўляў, Лукашэнка перастаў апошнім часам прыслухоўвацца да добрых парадаў і паводзіць сябе занадта прамалінейна...

Таму я не выключаю, што падчас мінскай сустрэчы маскоўскі госць мог даць кіраўніку Беларусі не адну параду. Магчыма, свае ўласныя, а магчыма, і прэзідэнта Расійскай Федэрацыі. Але што дакладна абмяркоўвалі Аляксандр Лукашэнка і Яўген Прымакоў, мы даведаемся пазней. А на памяць чамусьці прыходзіць візіт Яўгена Прымакова ў Багдад, да тагачаснага кіраўніка Ірака Садама Хусейна. Тады ўсе таксама гадалі — чаго гэта Яўген Прымакоў, які да гэтага доўга не пакідаў Маскву, раптам накіраваўся ў перадваенны Багдад. І толькі пасля таго як Садама скінулі з іракскага прастолу, патрыярх расійскай палітыкі нечакана публічна прызнаўся: "Я ездзіў у Багдад з далікатным даручэннем Уладзіміра Пуціна — перадаць асабістую просьбу прэзідэнта Расіі Садаму Хусейну, каб той сышоў з паста прэзідэнта Ірака па ўласным жаданні...".

Канешне, я не хачу і не магу сцвярджаць, што такое ж далікатнае даручэнне Яўген Прымакоў выконваў і ў Мінску. Але ж патрыярх расійскай палітыкі проста так такія візіты не робіць. Таму застаецца чакаць. Магчыма, праз нейкі час Яўген Максімавіч зноў публічна скажа, з якім жа канкрэтным даручэннем ён наведваў Мінск.

**Уладзімір ГЛОД.**

**БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ**

# Пар в свисток?

Александр Лукашенко выступил по телевидению со специальным обращением к белорусскому народу. Текст его напечатан в государственных газетах. Читаем:

*"Вдумайтесь: в мирное время в огне, авариях, на производстве белорусов погибает в четыре раза больше, чем за десять лет афганской войны!*

*В прошлом году в пожарах, других чрезвычайных происшествиях погибло 1300 наших граждан. От пьянства, нарушения правил дорожного движения на дорогах страны пострадало почти 10 тысяч человек.*

*Злободневной проблемой остается пьянство. В 2003 году более 50 тысяч человек привлечено к ответственности за распитие спиртных напитков на рабочих местах. Почти 84 тысячи нетрезвых водителей отстранены от управления автомобилями.*

*В прошлом году пожары причинили убытков на 28 миллиардов рублей. Посчитайте, сколько это зарплат и пенсий, новых больниц и школ!*

*Получается: своей преступной халатностью, разгильдяйством, недисциплинированностью мы сами против себя ведем войну.*

*С этим мириться нельзя!"*

Действительно, с этим мириться нельзя! Но достаточно ли здесь одних призывов, угроз в адрес "руководителей всех уровней"? Почему не говорится о причинах бедствий, о том, что им сопутствует?

В огне погибает очень много пьяных людей. А почему люди пьют? Не от хорошей жизни. Затуманивают мозги в основном от беспросветности. На приобретение хороших вещей, нормальной мебели, приобретение путевки в Дом отдыха, санаторий денег нет. Как нет их и на полноценные продукты — свежие овощи, колбасу, рыбу, соки... А вот на бутылку "чернила" есть, как и на бутылку водки — спиртные напитки у нас дешевые.

Заметьте, в огне погибают в основном люди бедные, простые. Вместе с ними часто погибают и их дети.

Так, беда приходит во многих случаях из-за беспечности людей, их халатности. Но опять же — причина всего этого кроется глубже. Благосостояние народа повысится тогда, когда заработает нормально экономика. А она заработает тогда, когда реформы будут не на бумаге, не на словах, а на деле. Это возможно в том случае, когда руководство страны, политики откажутся от популизма, от словоблудия, а подчинятся экономическим законам, не будут "изобретать велосипед", а воспользуются тем опытом, который давным-давно выработало человечество.

Вот еще на какие мысли наводит Обращение А.Лукашенко. Власть собирается бороться с бедами старыми советскими методами. Что значит *"надо наконец навести порядок в работе с рассмотрением обращений граждан. Еще раз подчеркиваю: каждое заявление должно быть внимательно рассмотрено. За формализм и отписки, которые подменят оказание реальной помощи, чиновники будут нести строжайшую ответственность"*? Сколько подобных угроз в адрес бюрократии раздавалось за последние годы? Десятки, сотни... Получается, как в известной басне: "А Васька слушает да ест". Вначале мы раздуваем аппарат чиновников, а потом удивляемся, почему они занимаются отписками. Хорошо, если бы они занимались только этим. А откуда коррупция? От них же. Взяточник на взяточнике — пока не подмажешь, не решишь ни одного вопроса.

Да что и говорить, Обращение А.Лукашенко продиктовано острейшей ситуацией. Но вот о путях выхода из нее — слабовато. Не уйдет ли пар в свисток?

**Сергей КУДРЯВЦЕВ.**

**БАРОМЕТР**

# Жыхары Заходняй Еўропы баяцца беларусаў?

*80% еўрапейцаў хочуць, каб у сувязі з пашырэннем Еўрапейскага Саюза на ўсход памежны пашпартны кантроль на мяжы ЕС узмацніўся. Пра гэта сведчыць апытанне пад назвай "Еўрабарометр", вынікі якога былі абнародаваныя гэтымі днямі штаб-кватэрай Еўрасаюза.*

Высветлілася, што еўрабюргеры запалоханы больш за ўсё нелегальнымі мігрантамі і ратуюць за ўзмацненне мяжы менавіта супраць іх. Найбольш людзей у Еўропе падтрымліваюць такую палітыку ў Грэцыі ды Італіі — 89 працэнтаў апытаных. Найменшую падтрымку жорсткім мерам выказалі жыхары Швецыі — 65 працэнтаў. У Еўракамісіі, вышэйшым выканаўчым органе аб'яднанай Еўропы, падкрэсліваюць, што *"апошняе апытанне павінна падштурхнуць намаганні еўрапейскіх урадаў увесці агульную палітыку прыёму імігрантаў і ўцекачоў, — што запланавана на пачатак мая"*.

**Галіна МАЦЮШЫНА**, намеснік старшыні Беларускага цэнтра ў Бельгіі — арганізацыі, якая на 100% складаецца з уцекачоў з Беларусі — у інтэрв'ю "Народнай волі" зазначыла, што лічыць засцярогі жыхароў Заходняй Еўропы цалкам абгрунтаванымі: *"Па-першае, хачу сказаць, што і беларусаў, і ўкраінцаў, і іншых прадстаўнікоў былога СССР тут, у Бельгіі, адносяць да "рускіх уцекачоў". Мы тут рускія. Уцекачы з былога СССР, на жаль, заваявалі сёння ў Заходняй Еўропе не вельмі добрую рэпутацыю: вельмі шмат ідзе крыміналу ад "усходнікаў", шмат выпадкаў выкрадання людзей з далейшым патрабаваннем выкупу... Еўрапейцы запалоханы, і ўсіх рускіх і беларусаў часта называюць "рускай мафіяй". Па-другое, нам вельмі цяжка не толькі знайсці працу, але проста ўладкавацца на вучэбныя курсы, — каб вывучыць мову і атрымаць спецыяльнасць. Нам часта адмаўляюць. Гэта ў сваю чаргу выклікае і адмоўную рэакцыю з боку эмігрантаў: былыя беларусы часам не хочуць шукаць работу, а працягваюць жыць на сацыяльную дапамогу. Беларусы страчваюць стымул інтэгравацца ў еўрапейскае жыццё"*.

На думку Г.Мацюшынай, "асабліва паўплывала на адносіны еўрапейцаў да ўцекачоў 11 верасня: сталі значна больш жорсткімі заканадаўчая база і працэдура праходжання ўцекача да запаветнага бельгійскага грамадзянства. Уцекачы пазбаўляюцца пэўных ільгот, падаўжаюцца тэрміны знаходжання ў лагерах для ўцекачоў...".

Тым не менш узмацненне мер супраць уцекачоў з Беларусі — не адзіная змена ў еўрапалітыцы да нашай краіны. Нядаўна на кніжных прылаўках Заходняй Еўропы з'явілася кніга камісара Еўрасаюза ў пытаннях адзінага рынку **Фрыца БАЛКЕНШТАЙНА** "Межы Еўропы". Сп. Балкенштайн сцвярджае ў сваёй кнізе, што Еўропа павінна аддзяліць сябе ад Сірыі, Ірана, Ірака і Расіі буфернымі дзяржавамі, сярод якіх узгадваецца і Беларусь. На думку еўракамісара, буферныя дзяржавы не павінны быць прыняты ў Еўрасаюз ніколі.

Радыё "Свабода" пацікавілася ў **Рамана САЛЧАНІКА**, кансультанта амерыканскай карпарацыі "Рэнд", пра тое, які ўплыў на погляды Еўракамісіі будзе мець меркаванне спадара Балкенштайна. Вось што адказаў сп. Салчанік:: *"Я сумняваюся ў тым, што погляды аднаго камісара Еўрасаюза могуць паўплываць на палітыку ў дачыненні да так званых "новых суседзяў. Але, з іншага боку, трэба разумець, што Фрыц Балкенштайн — не адзіная асоба ў Еўракамісіі, хто не зусім пазітыўна ставіцца да пашырэння Еўрасаюза, асабліва за кошт краін былога СССР, за выключэннем прыбалтыйскіх краін"*.

**Алесь СІЛІЧ.**

## Канстанціну Сумару будзе не да лыжні...

*"Настройваюся на плённую працу: не скоўваць ініцыятывы, а дзе трэба — сур'ёзна падштурхоўваць"*, — заявіў новы старшыня Брэсцкага аблвыканкама **Канстанцін Сумар** на прэс-канферэнцыі ў Брэсце, прымеркаванай да візіту на Брэстчыну Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Францыі ў Рэспубліцы Беларусь **Стэфана Шмялеўскага**.

*Старшыня аблвыканкама не канкрэтызаваў, якія кадравыя перастаноўкі ён зробіць у апараце аблвыканкама і ў раёнах, аднак на сёння вядома, што паводле ўласнага жадання звольніўся першы намеснік старшыні Эдуард Сакалоў, яшчэ некалькі чыноўнікаў напісалі заявы з просьбай аб звальненні паводле ўласнага жадання.*



*Сапраўды, Канстанціну Сумару будзе не да лыжні...*

**Фота ByMedia.net**

Першачарговым з эканамічных пытанняў К.Сумар бачыць пытанне развіцця аграпрамысловага комплексу вобласці, задача якога на 2004 год — сабраць 1 мільён тон збожжа.

Як адну з праблем, вырашэнню якой ён мае намер надаць асаблівую ўвагу, К.Сумар адзначыў праблему з прадпрыемствамі абароннага комплексу, а таксама прадпрыемствамі лёгкай прамысловасці, якія былі *"тварам вобласці"*, асабліва Баранавіцкае баваўнянае аб'яднанне і пінскае прадпрыемства "Палессе".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ**

*Людміла ВАЎЧКОВА:*

# «Я люблю свайго сына яшчэ і за тое, што ён сапраўдны патрыёт Беларусі»

*Каб не згубіцца ў віры жыццёвых праблем, любому з нас патрэбна падтрымка, цеплыня і пяшчота. Маці — гэта той чалавек, які заўжды знойдзе правільнае слова, каб падтрымаць сваё дзіця. Толькі матуля можа падарыць непаўторную цеплыню сваіх пяшчотных рук, каб сагрэць у любой няпростай сітуацыі.*

Толькі мама, не задумваючыся, аддасць сваё жыццё дзеля шчасця ўласнага дзіцяці, — так лічыць **Людміла ВАЎЧКОВА,** маці вядомага беларускага тэнісіста Уладзіміра Ваўчкова.

— Сэнс матчынага жыцця ў тым, каб дзеці былі шчаслівыя і здаровыя, — **гаворыць Людміла Станіславаўна.**

**— А ці верылі Вы, што Валодзя стане вядомым тэнісістам?**

— Стопрацэнтнай упэўненасці не было. У тэнісную секцыю, што знаходзіцца пры МАЗе, ён пайшоў у шасцігадовым узросце. Валодзя вучыўся ў мінскай агульнаадукацыйнай школе №162, куды і прыйшоў яго першы трэнер Вячаслаў Коннікаў для таго, каб набраць дзяцей для заняткаў тэнісам. Я тады падумала: а чаму б і не? Няхай тэнісам зоймецца, толькі б па вуліцы не бадзяўся...

**— А ці не адбіваліся Валодзіны заняткі тэнісам на паспяховасці ў школе?**

— Не. У Валодзі была вельмі добрая першая настаўніца — Таццяна Іосіфаўна Радзько. Яна не давала сыну закінуць вучобу ў школе. Дарэчы, Валодзечка вучыўся вельмі добра *(у пацвярджэнне сваіх слоў Людміла Станіславаўна паказала вялікі стос розных пахвальных грамат свайго сына і школьныя дзённікі Валодзі. І сапраўды, там не было не тое што двоек, але і троек).*

У школе Валодзя захапляўся гісторыяй і матэматыкай. А яшчэ ён вельмі добра чытае вершы. У дзяцінстве небеспаспяхова ўдзельнічаў у разнастайных конкурсах чытальнікаў.

Калі пачаліся рэгулярныя паездкі на спаборніцтвы, сыну даводзілася прапускаць школьныя заняткі. Некаторыя настаўнікі з разуменнем ставіліся да гэтага, а некаторым прыходзілася тлумачыць, што тэніс — Валодзіна будучыня. Таму са школы сын перайшоў у вучылішча алімпійскага рэзерву. А зараз ён вучыцца на завочным факультэце Беларускай акадэміі фізічнай культуры. Хоча стаць трэнерам па тэнісе.

**— Аднак пакуль жыццё Уладзіміра, як і любога дзеючага спартсмена, па-ранейшаму складаецца з трэніровак ды раз'ездаў. Ці часта ён бывае дома?**

— Не, нячаста. Але ён не з тых, хто з лёгкасцю можа застацца ў замежжы... Прыязджае з якога-небудзь турніру, зойдзе дамоў, пацалуе мяне і скажа: "Матуля, як хораша дома".

**— Канешне, матуля ж і накорміць смачна...**

— Валодзя не пераборлівы ў ежы...

**— Людміла Станіславаўна, а з нявесткай рэцэптамі прыгатавання ежы дзеліцеся?**

— Бывае. Зараз жа ў Валодзі свая сям'я. У бацькоўскім доме ён бывае рэдка. Разам з жонкай яны жывуць у жыллёвым комплексе "Алімпійскі". Вольга — добрая дзяўчынка. Пазнаёміліся яны, калі ў Валодзі былі праблемы з плячом. Сыну параілі спецыяліста, які б змог дапамагчы. Калі ён прыйшоў на прыём, там была Вольга. Яна былая спартсменка, займалася сінхронным плаваннем. Так іх сяброўства прывяло да вяселля.

**— А ці расказваў Валодзя Вам пра сваё першае каханне?**

— Зразумела, як і любому юнаку, яму падабаліся дзяўчаты. Заўсёды расказваў мне пра тое, што ён зацікавіўся той ці іншай дзяўчынай: "Мамачка, яна такая разумніца, вучыцца вельмі добра". Дарэчы, вельмі цяжка перажываў, калі нешта ў адносінах з дзяўчатамі ў яго не складвалася. Я старалася супакоіць: "Валодзя, не перажывай, калі гэта будзе тваё, ты абавязкова адчуеш. Прыйдзеш і скажаш: "Мамачка і тата, я запрашаю вас на вяселле". Вось аднойчы прыйшоў і сказаў.

Я вельмі хачу, каб сын і дачка былі шчаслівыя і здаровыя. Будзе здароўе — будзе ўсё.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*



*Валодзя Ваўчкоў у дзяцінстве...*

Народная Воля
13 САКАВІКА 2004 г.

БЕЛОРУСЫ МЕЖДУ НЕБОМ И ЗЕМЛЕЙ

# Хроники Анатолия Козловича



*Сегодня, как видите, я пользуюсь англицизмом. Кто в силу разных причин не знает, что такое self-made men, через пару абзацев объясню. А кто знает, я берусь скорректировать ваши представления. Без иноземного словосочетания в этой хронике не обойтись, оно позволяет рассмотреть моих героев в мировом контексте и лучше понять их суть.*

## 11. Self-made белорус

Существует место в нашей стране, где так называемые "новые" белорусы стоят в общей очереди с белорусами "старыми". Сие невероятно, однако я сам видел. Уникальное место находится под контролем ГАИ. Ошибаетесь, это не перекресток, где водители, выстроившись равноправным гуськом, должны ждать, пока загорится зеленый. Тут "новый" белорус на крутой иномарке обязательно тебя, "старого" белоруса, нагло подрежет, объедет, оттеснит, чтобы не заминал ему на пути к жизненным благам.

В Минской ГАИ имеется "площадка для снятия и постановки автомобилей на учет". Сюда обязаны прибыть на своей машине те, кто решил ее продать, и те, кто уже купил. Немногословный служитель госавтоинспекции прикажет водителю поднять капот, сверит с документом номер кузова (если под капотом грязно и номер плохо виден, заставит вытереть), черкнет в бумаге подпись — и вальяжной походкой пойдет к следующему автомобилю.

Надо терпеливо ждать в очереди, не роптать, не качать права человека, а то гаишник может сказать, что номер кузова не читается, стерт, и предложит проверить по компьютеру, провести экспертизу. Чаще всего подобная канитель грозит дорогим иномаркам, неоднократно перекупленным, пригнанным из-за границы под заказ. Среди них немало украденных, объявленных в международный розыск. Владельцы, "новые" белорусы, осознают опасность процедуры постановки автомобиля на учет, ведут себя непривычно скромно.

Итак, к гаишнику выстроились разномастные автомобили, все чистенькие. Перед моей "девяткой" стоит огромный джип, ощетиненный антеннами и напоминающий серебристый модуль космической станции. Джип стоит за маленьким, подкрашенным кисточкой, "Москвичом", похожим на приплюснутый электроутюг 1972 года выпуска, на котором навеки отлита в металле цена в 2 руб. 85 коп., демонстрирующая стабильность командной экономики.

В "Москвиче" сидят двое мужчин примерно одинакового возраста, лет по сорок пять, худые лица, усики подковкой, оба курят. Что делается внутри джипа, не видно за черными стеклами, оттуда глухо доносится мощная музыка. Автомобили, с остановками, ближе и ближе, продвигаются к гаишнику. А вот и он!

Из "Москвича" вылезают двое. Тот, кто был за рулем, следовательно, владелец, открывает капот. Второй приседает на корточки, заглядывает под багажник. Следовательно, покупатель еще раз осматривает железное приобретение. Джип подъезжает сзади впритык, разом открываются четыре двери, изнутри вываливается пятеро парней, все ежикоголовые, с налитыми шеями и щеками, с растопыренными локтями, в кожаных куртках.

Окружают "Москвич", один серьезно спрашивает владельца: "Слышь, мужик, за сколько тачку продаешь?" — "Двести баксов",— отвечает тот. Пятеро красномордых хором начинают хохотать, каждый на индивидуальный манер: повизгивая, сморкаясь, сплевывая, хватаясь за живот, трясясь телесами...

На площадке ГАИ мы, читатель, и встретили героев моей хроники. Self-made men — так называют их в западном мире. Люди, сделавшие себя сами. Люди, добившиеся материального успеха, ставшие известными в обществе. Я говорю не о пятерых "качках", они еще ничего не сделали, лишь перепродали, толкнули, а то и украли, отобрали, выманили.

Люди, сделавшие себя сами, — те двое, что под улюлюканье пятерых уехали на стареньком "Москвиче" в следующую очередь, столь любимую госавтоинспекцией. Именно их, с учетом белорусской специфики, я называю: self-made белорус.

***

Два с половиной часа мы стояли в змеевидной очереди к окошку, где молчаливый гаишник не спеша принимал у нас заявления, квитанции об уплате пошлины и услуг, старые автомобильные номера, проверял наши паспорта, водительские удостоверения, доверенности, отпечатки пальцев, обязательную страховку, свидетельства о браке, мускулатуру (у женщин — упругость груди), трудовые книжки, сетчатку глаз, военные билеты, зубы...

Если я что-то добавил, то это от усталости, обреченности. Если гаишник что-то и не проверял у нас наяву, то мысленно уж точно проверял. В ГАИ мастерски оскорбляют очередью достоинство человека.

В очереди я познакомился с соседями — двумя мужчинами из "Москвича". Сблизились мы, наверно, потому, что я был свидетелем их унижения на площадке, и мужикам необходимо было выговориться. Кроме того, нас, как говорится, роднило то, что моя продаваемая "девятка" по автомобильной иерархии находилась на одной ступени с утюгом, а не космическим аппаратом. Оба звались Николаями. Один, как я угадал раньше, продавал "Москвич", другой покупал. Для удобства я назову своих героев: Николай-продавец, Николай-покупатель.

Оба Николая понимали, что пятеро лбов унизили их преднамеренно, с вызовом. Но их ответная ненависть была спокойной, мудрой. В выработке модели поведения Николай-продавец наставлял Николая-покупателя: "Ты принимай таких сук, как дождь, — он показывал глазами в сторону одного из пятерых обидчиков, стоявшего в очереди, остальные, видимо, сидели в джипе. — Например, пошел дождь — открывай зонтик, шагай дальше. Нет зонтика — прячься под навес. Не мокни зря! Я это уже знаю, как дважды два. Например, явились такие суки за своим куском. Или другие — милиционеры, пожарники, налоговики, санстанция... Нате кусок, подавитесь. Не дашь — оштрафуют, закроют, проколют колеса в машине. Эти — сожгут киоск. А могут изнасиловать дочку. Жрите, суки. Я себе заработаю".

"Суки" Николай произносил с негромким, уверенным, бессмертным презрением, похожим на вечный, неистребимый, оптимистический шум листвы под дождем, о котором он говорил другу Николаю. Да, они были не только продавец и покупатель, но и друзья, и соседи по квартире, и бывшие коллеги-токари Минского тракторного завода. Их пути разошлись в апреле 1991 года, когда оба в многотысячной толпе рабочих ходили на площадь Ленина требовать у правительства снизить резко увеличенные цены на продукты. Простояв на площади по три смены и ничего не добившись, они ушли оттуда разными людьми.

Николай-продавец уволился с завода, пошил сумку-громадину, нагружал ее барахлом, возил в Польшу продавать. Три раза в неделю на автобусе туда и назад! Два года без сна, без отдыха, в поисках товара, в торговой лихорадке. Через два года купил "Москвич". Новый. У него хорошая подвеска, выдерживает почти тонну. На нем Николай-продавец возил хлеб, колбасу, бидоны с молоком, электротовары, батареи отопления, облицовочную плитку, обои, автозапчасти, стиральные порошки, мебель...

Сначала возил товар из Беларуси в Польшу. Когда жизнь в Польше наладилась, возил товар оттуда в Беларусь, где жизнь пошла туда, куда он не захотел. Его бизнес перешел в новую фазу. В микрорайоне тракторного завода Николай-продавец поставил киоск, посадил торговать старшую дочь, а сам мотался на автомобиле в Польшу, в Россию, в Германию, в Литву, в Молдавию, в Болгарию...

Пару раз наш разговор прерывал звонок его мобильника, Николай отходил в сторону поговорить. Возвратившись, сообщал, что звонили партнеры из Варшавы и Смоленска: готов товар, надо ехать. Надо срочно брать семилетнюю "Ауди", которую присмотрел на рынке. Нет свободной минуты, однако полдня убил на оформление "Москвича", хотя это можно сделать за полчаса, если бы у нас ценили человека.

Николай-покупатель тоже нервничал из-за очереди. Он отпросился у начальника участка на два часа, но ясно, что не успеет. Не хотелось злить начальство. Заявление об увольнении месяц лежит в отделе кадров, подписывать не хотят, потому что классных токарей в цеху не осталось. Месяц прошел, по закону можно не являться на работу, трудовую книжку забрать потом. А вдруг осерчают и не отдадут? Николай-продавец по-дружески подкалывал: "На кой тебе эта книжка? Я выпишу новую. А пенсию насобираешь. Сам! Послезавтра садимся за руль, я на "Ауди", ты на "Москвич", гоним в Варшаву за товаром".

Видно, что друзья вели спор затяжной. Я подвернулся им как внимательный слушатель. Для меня Николай-продавец добавлял про друга с иронией: "Двенадцать лет уговариваю, а он боится. Очень любит родной завод! Директора любил больше всех. Бывшего, Леонова — тот красиво выступал перед работягами. Если бы Леонова не посадили за воровство, Николай не ушел бы с завода. Так и ходил бы на выборы. Выбирал бы благодетеля. — Обращался к другу: — Из кого, Коля, выбирать?! Вспомни, как в 91-м Кебич по-дурацки алёкал нам в микрофон! Ты выбрал Лукашенко, за это он тебе в ручку положил сто баксов. А тебе цена не сто в месяц, а пятьсот, например. Покрутишься со мной — будешь иметь. — Обращался ко мне: — Я двенадцать лет не хожу на выборы. На всякие! Ничего не потерял. Зато знаю, где искать. И его туда тяну. Заставил получить права шофера. Ну что за мужик без машины! Продал ему по дешевке "Москвич". Отдам полку в киоске, пока свой не поставит. А как поставит — триста баксов на человека в семью прибудет. Можно учить обоих сынов. Я учу в институтах три дочки. Откладываю по сотке-две на пенсию. Заставят убрать киоск — пойду в павильон. Увеличат квартплату — выдержу. Один умник придумал налог на мобильник — бери, радуйся. Это твой потолок, например. А мы знаем, как выжить без них. Не пропадем, Коля!.."

***

Оба Николая вспоминают 1991 год, апрель, забастовку. Происшедшее тогда накрепко отложилось в их памяти, толкнуло Николая-продавца развернуть свою жизнь в другую сторону, а Николая-покупателя поставило на перекресток, где он долго и мучительно выбирал жизненное направление.

Я тоже был с ними тогда на площади Ленина. Может, мы стояли рядом? Свои впечатления тогда же я и записал по журналистской привычке и по предчувствию, что с людьми происходит нечто кардинально важное. Изучаю по репортажу историю современности:

"1 апреля был день смеха.

2 апреля был день шока, вызванного многократным повышением цен. Люди ходили по магазинам, чтобы убедиться: неужели родное государство способно на подобное действо? Да, способно, ибо никогда не было родным, народным. В очередной раз оно оставило своих граждан раздетыми, разутыми, голодными. Нищими.

3 апреля рабочие нескольких минских заводов бросили станки и вышли на улицу. Забастовка! Повысить зарплату!

4 апреля забастовка приняла массовый характер. Рабочие строились в колонны и шли к Дому правительства.

Движение транспорта по проспекту Ленина прекратилось. Рабочие шли в спецовках. Милиция организовала им "зеленую улицу".

Шла темно-серая масса, на которую опиралась правящая партия и от имени которой душила БНФ и ее лидера Позняка.

Решением Минского горисполкома митинги на площади Ленина запрещены. Однако никто не посмел не пустить на площадь рабочих. Не хотели накалять обстановку? Хотели уговорить?

Поначалу митинг шел спонтанно. Не было даже ведущего. Из динамика неслись призывы: "Горбачева — в отставку!", "Дайте хлеба!", "Повысить компенсацию!"

К митингующим вышел председатель Совета министров республики Вячеслав Кебич. Неизвестно, что он хотел сказать народу. Несколько раз он выкрикнул в микрофон неуместное слово "алло". Так говорят собеседнику, которого не видят и не слышат. Алёканье возмутило собравшихся. "Кебича — в отставку!" Кебич обиделся и ушел.

Мало-помалу митинг начал работать. Избрали ведущих. Избрали стачком. Выработали пакет экономических и политических требований, переданных правительству.

Правительству был поставлен ультиматум: если до 10 апреля требования рабочих не будут выполнены — состоится общегородская забастовка. Или даже республиканская.

Реакция властей оказалась незамедлительной. На следующий же день, 5 апреля, Президиум Верховного Совета БССР обнародовал постановление, подписанное Председателем ВС Николаем Дементеем. Полное название документа внушительно: "О серьезных упущениях при проведении реформы розничных цен и обеспечении социальной защиты населения Белорусской ССР".

Нельзя без грустной улыбки читать торопливый документ. Требования трудящихся признаны справедливыми, а действия руководителей предприятий — неправильными. Не обеспечили-де успешное проведение реформы, не защитили рабочих от премьер-министра СССР Павлова.

В тот же день Совмин республики, посоветовавшись с профсоюзами, объявил о своих экспромт-намерениях: снизить в полтора раза введенные со 2 апреля розничные цены на детские товары (через пару дней это нелепое решение было отменено); уменьшить стоимость питания в рабочих, школьных, студенческих столовых; осуществить поэтапное повышение зарплаты в производственных отраслях.

Это — несерьезно. Это даже не кость — туфта. К трем миллиардам бюджетного дефицита правительство добавило еще столько же — и получило шесть. И призвало: будьте, работяги, сознательны, не бастуйте, а то приведете республику к краху. Работайте — и спасетесь.

Эта песенка знакома. И чтобы по городам и весям гуляла только она, чтобы по-прежнему дурачила люд, создавала информационный вакуум, — минский стачком лишили пятнадцати минут прямого телеэфира. Нарушили договоренность. Обманули, не моргнув глазом.

10 апреля стачка в Минске возобновилась с новой силой. Участвовало 64 предприятия. На площади Ленина стояло 100 тысяч человек. Митинг шел весь день: на место первой смены заступила вторая.

Тихая стабильная Белоруссия удивила мир. Нигде в СССР не протестовали против повышения цен так активно и гневно, как рабочие Белоруссии.

Неужто прозрели, коль вышли на площадь и подняли над кудрями сжатые кулаки? А если все-таки сунуть каждому по костке — разожмутся кулаки, схватят? И зашьются в панельные норы, и станут грызть, забыв о политике?

На то и была надежда правительства, изобретавшего очередную кость в зубы пролетариату.

Я был на площади. Слышал, что говорил народ. "Мы работали не покладая рук. А что имеем? Нищету! Нас заставила выйти на площадь жизнь" (рабочая электротехнического завода).

"Зовите нас не товарищи, а граждане" (записка, оглашенная на митинге).

"Без коренных экономических реформ мы не выйдем из болота" (рабочий завода имени Вавилова).

"Мы долго ждали, когда вы поддержите нас. Вот это, я вижу, люди — они проснулись!" (представитель бастующих шахтеров Донецка).

"Мы — не женщины. Из литеек. Если бы нас увидеть в рабочей одежде, нас можно испугаться. Я очень рада, что мы проснулись" (рабочая тракторного завода).

Я видел эйфорию их прозрения. День 3 апреля 1991 года стал днем истинной солидарности трудящихся Белоруссии. Эмоциональный подъем чрезвычайно высок. Это были эмоции созидания. На митингах — порядок, дисциплина. Чувствовалось, стачком контролировал ситуацию. И сам зрел, набираясь опыта.

Да, они бастовали. А их боялись. Перед ними заискивали. Их пытались расколоть, подкупить, запугать. Им вводили в уши до боли знакомое: в вашем стачкоме — экстремисты.

Хорошо, что Зенона Позняка не было в Белоруссии. В составе делегации народных депутатов он находился в Канаде. Если бы он был в Минске, официальная пропаганда непременно пустила бы утку: забастовку организовал Позняк.

Позняк прислал из Канады приветственную телеграмму. Она была зачитана на митинге. Рабочий класс дружно приветствовал лидера БНФ. Удивительные превращения!

Рабочий класс, кто же ты? Каково твое истинное лицо?

Пропаганда сказала: ты, рабочий класс, и есть экстремист. Потому что бастуешь. Нарушаешь стабильность мифического социализма. Стабильность антинародных порядков.

Газеты протрубили: рабочий класс, работай, а то подохнешь. Власть предупредила: если не выйдешь к станку, будет крах.

Есть ли большее зло, чем власть, убеждающая народ продолжать бездумно, как скот, рыть котлован? Рыть себе могилу.

Забастовка — это отказ рыть котлован.

Забастовка — единственное средство, позволяющее народу освободиться от навязанной ему идеологии массового самоубийства, а бездарной антинародной власти — уйти подобру-поздорову.

Народ не может быть экстремистом, ибо народ ориентирован на продолжение самое себя. На жизнь, а не на погибель. Чего же хотел белорусский народ, который, как известно, спит долго и тем умиляет генсека в Москве, а проснувшись, неплохо партизанит?

Добиться от Президиума ВС БССР решения о созыве внеочередной сессии Верховного Совета, который объявит о своем самороспуске. Далее — выборы на многопартийной основе нового Совета. Далее — формирование правительства народного доверия.

Добиться цивилизованным путем цивилизованной жизни".

Таков репортаж из апреля 1991 года. Напомню: до распада Советского Союза оставалось 8 месяцев. Распада прогнившей донельзя экономической системы! И отнюдь "не преступного развала великой страны" Ельциным, Кравчуком и Шушкевичем, как трактуют историческое событие наследники и продолжатели СССР, поныне стоящие у власти в Беларуси, оболванивающие народ по коммунистической методике.

***

Осенью 2003 года правительство Республики Беларусь взвинтило цены за коммунальные услуги до уровня, который президент в благородном коммунистическом гневе обозвал грабительским. Президент возмущается, а народ ... не вышел на площадь Независимости, не забастовал, как в 1991-м.

Не странный ли этот белорусский народ? Нет, он в привычной психологической форме. Он уже не пользуется утюгом 1972 года с вечно-незыблемой ценой, за ненадобностью выбросил на свалку такие же кастрюли, мясорубки, сковороды... Белорусы привыкли, что цены имеют свойство ползти вверх. Следующий раз они выйдут на забастовку, когда колбаса моментально подорожает в 100 раз. А такое вряд ли возможно.

Массовая забастовка, а, следовательно, революционная смена власти по югославскому либо грузинскому сценариям у нас невозможны по причине белорусской толерантности. Синоним нашей толерантности — долготерпение. Белорусы терпели многое, потерпят еще большее. Это сугубо личностное качество, оно не переходит на вид, род, народ. (Не буду здесь повторять то, о чем подробно рассказал в своей книге "Белорусы между небом и землей". Кто не имеет ее, свяжитесь со мной — и книга с моим автографом будет у вас.)

Существенно то, что терпение белоруса не проходит бесследно. Если на рыбу в течение тысячелетий давить тяжелой толщей воды, она превращается в плоскую камбалу, оставаясь полноценной рыбой. Если беззащитную ящерицу выбросить из зеленой травы на голый серый песок, она тотчас из зеленой превратится в серую, незаметную на песке, — и тем спасется. Под гнетом среды обитания выживает только сверхтерпеливый организм. Терпеть — значит адаптироваться, приспосабливаться, развивать новые качества. Значит, жить дальше.

Когда рыбы выползли на сушу и неуклюже пошли плавниками и хвостом, они стали добычей более ловких существ, вышедших на сушу раньше. Чтобы спастись, рыбы за столетия превратили свои плавники в крылья и поднялись на деревья, покорили небо.

Чтобы отделиться от площади Ленина (Независимости), чтобы забыть связанные с ней наивные надежды, Николай-продавец отправился в Варшаву, затем сел на автомобиль, покорил СНГ, Европу. Сейчас за ним следует Николай-покупатель.

Белорусы освоили новый, более высокий виток адаптации. Раньше они терпеливо адаптировались главным образом к окружающей их природе, сейчас — к природе свалившейся на них власти. Оба Николая социальным поведением показывают нам, что у них адаптация к чужеродной власти практически завершилась.

Из толерантности белоруса выросло равнодушие к общественно-политическому устройству страны. Моим героям все равно, какая персона расположится в главном кабинете на улице Карла Маркса или на площади Независимости (Ленина). Они избавились от совковых ожиданий, саркастически смеются над обещаниями как власти, так и оппозиции. Их забота — найти товар и привезти домой, где их ждут сорокапятилетние жены, похорошевшие от уверенности в завтрашнем дне, и дети, воспитанные в духе примитивного капитализма.

Из белорусской инфантильности выросли крылья, подняли моих Николаев на новую орбиту. Я так и представляю их — высоко! На вершине их человеческого достоинства, куда они забрались сами, без помощи государства, наоборот, преодолевая государственные препоны. Их нельзя назвать богатыми, известными. Их никто не знает, я встретил их случайно. Они по-белорусски скромны и неприметны, амбициозных целей перед собой не ставят.

На отечественной орбите — self-made белорус. Впереди Николай-ведущий, следом Николай-ведомый.

SOS!

## Да 2180 года магчыма поўнае знікненне беларускай нацыі, мяркуюць герантолагі

*Для паляпшэння дэмаграфічнай сітуацыі ў Беларусі неабходна стварыць навукова-практычны цэнтр, які будзе займацца пытаннямі паляпшэння здароўя. Такое меркаванне выказаў кіраўнік Беларускага аддзялення Міжнароднай акадэміі геранталогіі (БА МАГ)* **Уладзімір Цімашэнкаў.**

Кіраўнік БА МАГ адзначыў, што пачынаючы з 1996 года з-за натуральнага змяншэння насельніцтва Беларусі штогод скарачаецца на 50 тысяч чалавек. Пры такой тэндэнцыі, мяркуе спецыяліст, за 20 гадоў насельніцтва паменшыцца на 1 мільён, а да 2180 года магчыма поўнае знікненне беларускай нацыі.

Паводле слоў галоўнага герыятра Мінска **Валерыя Гірына,** разам з павелічэннем працягласці жыцця ў структуры грамадства ўзрастае працэнт насельніцтва састарэлага веку. На сёння людзі ва ўзросце больш за 60 гадоў складаюць 30 працэнтаў насельніцтва Беларусі. У Мінску на пачатак 2004 года пражывалі 1 мільён 726 тысяч чалавек, з якіх 287,3 тысячы чалавек — старэйшыя за 60 гадоў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

ДЫПКУР'ЕР

*Стэфан ШМЯЛЕЎСКІ:*

## «Я стараюся зрабіць так, каб у Беларусі паболела Францыі»

*"Я стараюся зрабіць так, каб у Беларусі стала больш Францыі", — так вызначыў мэту свайго двухдзённага візіту ў Брэсцкую вобласць Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Францыі ў Беларусі Стэфан Шмялеўскі, адказваючы на пытанні журналістаў.*

Тыдзень франкафоніі, што праводзіцца на Брэстчыне, прысвечаны выдатным асобам — пісьменніцы **Жорж Санд,** музыканту **Фрэдэрыку Шапэну** і кінарэжысёру **Франсуа Азону**. Стартаваў ён 10 сакавіка ў Брэсцкім музычным каледжы з канцэрта для фартэпіяна па творах Шапэна і дэманстрацыі ў кінатэатры "Беларусь" фільма Азона "Восем жанчын". Аднак **"больш Францыі",** на думку С.Шмялеўскага, — гэта не толькі культурныя мерапрыемствы, але і дзелавыя кантакты.



Па выніках 2003 года знешнегандлёвы абарот паміж Брэсцкай вобласцю і Францыяй склаў 18,5 мільёна долараў пры адмоўным сальда ў 10,5 мільёна. У Францыю экспартуюцца тэкстыльнае адзенне, казеін, мэбля, тканіны, у структуры імпарту пераважаюць прадукцыя хімічнай прамысловасці, мяса і субпрадукты, палімерныя матэрыялы, тэкстыль, транспартныя сродкі, моцныя спіртныя напоі, машыны і абсталяванне.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## «Выцягні, дачушка, грошы ў дзядулі»

Жыхар вёскі Мікуліна Глыбоцкага раёна Мікалай Валковіч (імя і прозвішча зменены) здабываў грошы на выпіўку выпадковымі падпрацоўкамі: каму агарод заарэ, каму дроў напілуе.

Аднойчы цесць папрасіў Мікалая дапамагчы ў гаспадарцы, за што пачаставаў зяця віном, і сам ад чаркі не адмовіўся.

Пасля выпіўкі стары заснуў.

Госць бачыў, што жонкін бацька схаваў рэшткі пенсіі ў кішэню штаноў, і вырашыў, што такога багацця цесцю будзе зашмат.

Валковіч накіраваўся дадому і падвучыў дачку збегаць да дзядулі і выцягнуць у яго з кішэні грошы, паабяцаўшы дзяўчынцы за гэта ласунак — марожанае.

Дзяўчо спрытна выканала бацькава даручэнне.

Прачнуўшыся, пенсіянер заўважыў, што ў яго са штаноў знікла 105 тысяч рублёў — увесь месячны прыбытак, і неўзабаве падзяліўся навіной з участковым міліцыянерам, які хутка разабраўся, што да чаго.

За падбухторванне непаўналетняй асобы да злачынстваў Валковічу пагражае да 7 год зняволення.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

*Людміла ВАЎЧКОВА:*

## «Я люблю свайго сына яшчэ і за тое, што ён сапраўдны патрыёт Беларусі»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**— Дарэчы, пра Валодзіна здароўе. Што ж здарылася тады, на матчы Кубка Дэвіса з расіянамі, калі Уладзімір упаў на корце?**

— Нічога не абяцала бяды. Валодзечка сур'ёзна рыхтаваўся да матча з расіянамі. Для яго выступленне за зборную роднай краіны важней за ўдзел у любым іншым спаборніцтве, нават у турніры Вялікага Шлема. Я люблю свайго сына яшчэ і за тое, што ён сапраўдны патрыёт Беларусі.

Дык вось, у першай сустрэчы супраць Ігара Андрэева Валодзя няўдала пабег за мячом, пацягнуў звязкі і ўпаў... Я не магла стрымаць слёз. Памятаю, я тады ўскрыкнула: "Божачка, за што?!" Справа ў тым, што незадоўга да гэтага Валодзе зрабілі аперацыю на руцэ па выдаленні кісты. Дагэтуль, як я ўжо гаварыла, яго непакоіла плячо...І вось новая бяда...

**— А як Валодзе ўдалося так хутка аднавіцца?**

— Адразу з футбольнага манежа Валодзю павезлі ў аддзяленне траўматалогіі 6-й мінскай бальніцы, дзе на нагу наклалі гіпс і адправілі дамоў. На наступны дзень спецыялісты з дапамогай камп'ютэрнай тэхнікі глядзелі літаральна кожны нерв, кожную жылку. Думалі, як і што можна "падцягнуць". Перад апошнім днём матча з расіянамі сын сказаў мне, што не ўпэўнены ў тым, што здолее згуляць. Таму, калі Валодзя выйшаў на корт у нядзелю, я вельмі перажывала за яго. Сціснула рукі і сказала: "Сынок, раз ты выйшаў гуляць, то абавязкова пераможаш". Паверце, у той дзень у мяне была тысячапрацэнтная ўпэўненасць, што сын выйграе сваю сустрэчу. Валодзечка — баец. З дзяцінства ён прывучаны рабіць сваю работу добра. У дзяцінстве ў сынавым пакоі вісела паперка з правіламі, якіх ён прытрымліваецца і зараз. Адно з іх: альбо працуй, альбо памры. Ні ў якім разе не хачу пахваліць сына, але ведаю дакладна, што на корце ён зробіць усё для таго, каб было нясорамна яго пакідаць.




**— Валодзіна перамога стала лепшым для Вас падарункам...**

— Сапраўды. Яшчэ ў лютым я атрымала ад сына падарунак да 8 Сакавіка ў выглядзе гэтай перамогі. Яго сястра Света сачыла за матчам праз Інтэрнэт. Патэлефанавала дамоў і сказала: "Мамачка, перадай Валодзе, што ён павінен выйграць. Гэта будзе самы лепшы падарунак да 8 Сакавіка". Так што свой падарунак ад сына на гэтае свята мы з дачкой атрымалі за месяц да жаночага дня.

**— Наперадзе ў зборнай Беларусі гульня з Аргентынай. Рызыкнёце зрабіць прагноз на зыход сустрэчы?**

— Каманда Аргенціны вельмі моцная. Будзем спадзявацца, што нашы тэнісісты справяцца з хваляваннем і згуляюць годна. Вы ведаеце, калі Валодзя гуляў на Уімблдонскім турніры, дзе толькі ў паўфінале саступіў славутаму Піту Сампрасу, я ведала, што сын пройдзе далёка па турнірнай сетцы. Справа ў тым, што мне прысніўся сон, паводле якога Валодзя павінен быў заняць трэці радок. Я разумею, што ў тэнісе немагчыма заняць трэцяе месца, але калі Валодзечка патэлефанаваў з Англіі, я сказала яму пра тое, што прысніла. Тады ён рассмяяўся і адказаў: "Мамуля, я буду старацца!" Да матча з аргенцінцамі яшчэ ёсць час. Можа, будзе яшчэ адзін прарочы сон...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**P.S.** *Аўтар выказвае падзяку Людміле Станіславаўне Ваўчковай не толькі за інтэрв'ю, але і за гасцінны прыём і смачны пачастунак.*

## За молчание — за решетку

*Сегодня, 13 марта, закончится 10-дневный срок пребывания за решеткой гродненского изолятора* ***Дмитрия ИВАНОВСКОГО*** *— заместителя председателя республиканского объединения предпринимателей "Перспектива". К административному аресту Ивановский был приговорен за организацию в Гродно несанкционированной акции протеста предпринимателей — Митинга молчания.*

Милиция задержала Дмитрия Ивановского за день до митинга на рынке Южный и изъяла у него листовки с призывом собраться 1 марта в знак протеста против удушения малого бизнеса. Сам Ивановский во время митинга находился в суде, где выносилось решение о наказании его за превышение тиража распространяемых листовок. Ровно час простояли предприниматели на морозе, но никто из местного руководства не вышел к протестующим. Под требованиями к городским властям подписались 467 предпринимателей. Собирали подписи также и под обращением к высшим органам власти. Из кабинетов местного руководства было видно, что происходит на площади, но к людям никто не вышел.

Несмотря на то, что к моменту прихода Ивановского митинг уже закончился, активиста предпринимательского движения пригласили в Ленинский РОВД для выяснения его причастности к организации несанкционированного митинга. Затем дважды собирался суд Ленинского района города Гродно, чтобы вынести решение по этому обвинению. По словам Ивановского, судья затруднилась с определением события, происходившего на площади: митинг — это когда митингуют, а гродненские предприниматели протестовали молча.

На основании показаний свидетелей, в качестве которых были привлечены сотрудники милиции, Дмитрий Ивановский был признан организатором митинга молчания и арестован на 10 суток. Ивановский свою вину не признал и сразу же после вынесения решения объявил голодовку.

Предприниматели, пришедшие в зал суда поддержать заместителя председателя республиканского объединения "Перспектива", отвезли помещенному в следственный изолятор Ивановскому сок и теплое одеяло. Оказалось, что одеяло передавать запрещено. Впрочем, так же, как и собираться больше трех для выражения молчаливого протеста.

**Наталья МАКУШИНА.**

*Гродно.*

